АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА

30 ЛІПЕНЯ – 5 ЖНІЎНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№31 (223)

МАЛАДЗЕЧНА

## Маладзечна без фестывалю?

У інтэр'ю "Радыёфакту" 27 ліпеня **Міхаіл Фінберг** сказаў, што галоўнай музычнай падзеяй краіны будучага года будзе чарговы фестываль беларускай песні і паэзіі. Але маэстра адзначыў, што "горад яшчэ не вызначаны". Так што Маладзечна – калыска фестывалю – можа застацца ні з чым.

*Мікола ЛІННІК.*

Сітуацыю па просьбе «РГ» пракаментіраваў першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык**. Па яго словах, фестываль беларускай нацыянальнай песні і паэзіі "Маладзечна–2000" мае быць. Па дамоўленасці паміж Міністэрствам культуры, Маладзечанскім гарвыканкомам і Дзяржаўным аркестрам пад кіраўніцтвам М. Фінберга фестываль будзе праводзіцца раз на 2 гады і менавіта ў Маладзечне.

Пакуль што ні адзін з бакоў не адмаўляўся ад сваіх абяцанняў. Мусіць, і ў наступным годзе яшчэ пафестывалім.

*Тацціяна ЦІТАВІЦКАЯ.*

ВІЛЕЙКА

## Чыноўнікі на паласе перашкод

У раённым турысцкім злёце ўзяла ўдзел каманда райвыканкома. Называлася яна ЗОВРИК (заядлые оптимисты вилейского раённого исполнительного комитета).

"Аптымісты" занялі III месца. На жаль, першыя асобы райвыканкома ў пераадольванні турысцкай паласы не ўдзельнічалі.

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Расіяне шукаюць рынкі?

У аўторак горад наведалі гандлёвы прадстаўнік Расійскай Федэрацыі ў Беларусі Станіслаў Рэутаў і эксперт Аляксандр Самарцаў. Сустрэчы з гасцямі адбыліся ў гарвыканкоме і на прадпрыемствах.

*Аддзел інфармацыі.*

МІНСК

## У метро адчапіўся вагон

Надзвычайнае здарэнне адбылося 28 ліпеня на Маскоўскай (першай) лініі мінскага метрапалітэна. У 16 гадзін 20 хвілін на перагоне паміж станцыямі «Плошча Перамогі» і «Плошча Якуба Коласа» апошні вагон электрацягніка, які ехаў у накірунку да станцыі «Усход», адчапіўся ад трох першых. Як паведамілі БелаПАН у дыспетчарскай службе першай лініі сталічнай «падзямкі», у выніку аператыўных дзеянняў пасажыры, што ехалі ў цягніку, былі эвакуіраваныя, а ўсе дзевяць станцый першай лініі — зачыненыя для ўваходу да поўнай ліквідацыі наступстваў аварыі.

Пацярпелых няма. Рух на лініі быў аднаўлены ў 17 гадзін 8 хвіліі. Спецыялісты метрапалітэна вывучаюць прычыны адчэплівання вагонаў.

*Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.*

МІНСК

## Новая сістэма ацэнкі ведаў

У 1999—2000 навучальным годзе ў шэрагу школ Беларусі пройдзе эксперыментальную праверку новая сістэма ацэнкі ведаў вучняў.

У новай 10-бальнай шкале адмоўных адзнак не прадугледжваецца наогул: ранейшай «двойцы» будзе адпавядаць 0 балаў. Іншыя адзнакі адпавядаюць цяперашняй шкале адзнак, якая даўно пашыраецца настаўнікамі інтуітыўна пры дапамозе абазначэнняў накшталт 3 з мінусам або 4 з плюсам.

Міністр адукацыі **Васіль Стражаў** лічыць, што для эксперыментальнай праверкі новаўвядзення неабходна некалькі год, прычым гэтая сістэма пакуль можа прымяняцца толькі для бягучых адзнак, а выніковыя балы павінны выстаўляцца ў прывычным дыяпазоне.

*Марына КУНОЎСКАЯ, БелаПАН.*

МІНСК

## Беларусь ізноў без крэдытаў

Як паведамілі БелаПАН ў прадстаўніцтве Міжнароднага валютнага фонда (МВФ) у Мінску, Савет дырэктараў на сваім штогадовым пасяджэнні вырашыў не выдзяляць Беларусі фінансавых сродкаў і па-ранейшым абмежаваць дзейнасць фонду ў краіне тэхнічнай дапамогай. Акрамя таго, прынята рашэнне не накіроўваць ў Беларусь у бліжэйшы час новыя місіі.

Нагадаем, што апошнія крэдыты МВФ Беларусь атрымала ў 1995 годзе, але крэдытаванне было спынена з-за невыканання беларускім урадам рэкамендацый фонду.

Дырэктар 2-га еўрапейскага дэпартамента МВФ Джон Одлінг-Смі гаворыць:

– Мы прадастаўляем фінансавую дапамогу краінам, праводзячым эканамічную палітыку, якая, на нашу думку, палепшыць эканамічную сітуацыю... Эканамічная палітыка, якую ўпарта праводзіць урад Беларусі, на нашу думку, не зможа ўмацаваць эканоміку краіны... Беларускі ўрад спрабуе замарозіць эканамічную структуру такой, як яна была ў савецкі час: улады стараюцца прымусіць працаваць старую прамысловасць замест таго, каб паспрабаваць стварыць асяроддзе, у якім можа вырасці новая. Таму мы крытыкуем падыходы вашага ўрада.

Дырэктар 2-га еўрапейскага дэпартамента МВФ правеў аналогіі паміж эканамічнай палітыкай урад Беларусі, Узбекістана і Туркменіі.

– Паміж Беларуссю і гэтымі краінамі ёсць сур'ёзныя адрозненні, — адзначыў ён, — але яны падобныя ў спробах пазбегнуць шляхоў да рынкавай эканомікі, у тым, што працягваюць дзейнічаць старымі метадамі.

*Наталля КУЛАГІНА, Аляксей ЗНАТКЕВІЧ.*



# У Маладзечне сустрэлі 27 ліпеня

27 ліпеня Маладзечна сустрэла дзевятую гадавіну прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце масавым з"яўленнем нацыянальных сцягоў на будынках. Мабыць, самы высокі пункт – сцяг паміж дзевяціпавярхоўкай і паціпавярхоўкай у шостым мікраёне. Сцягі былі заўважаныя на будынку ПТВ–21, у іншых раёнах горада – усяго больш за дзесятак.

Акцыі такога кшталту традыцыйныя ў Маладзечне. Калі сцягі – то бела–чырвона–белыя, калі графіці – то "Жыве Беларусь!". Як гэтая, каля ўезду ў шосты мікраёна.

...У жыце,
ў буслянцы,
у кветцы,
ў траве –
Жыве Беларусь.
Жыве!

*Аддзел інфармацыі.*

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

ФОТА ВАЛЯНЦІНА ГЕРНОВІЧА.

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

## Ля рынку з"явіўся свой «Арбат»



*У добрае надвор"е ды калі дазваляе час, цяжка адмовіцца ад уласнага партрэта, зробленага Антанінай Нявераай.*

ФОТА ВАЛЯНЦІНА ГЕРНОВІЧА.

*МАЛАДЗЕЧНА. На гарадскіх вуліцах, асабліва ля калгаснага рынку, з'явіўся новы від бізнесу. Мастакі алоўкам малююць партрэты.*

**Антаніна Нявера** займалася гэтым і раней. Сама яна ў СШ №8 вядзе гурток народнай творчасці і выкладае жывапіс. Падчас адпачынку неабавязкова ехаць некуды на заробткі. Партрэт каштуе 300 тысяч. А для работы патрэбна тры складаныя: натхненне, добрае надвор'е і каб рынак працаваў. Бо асноўныя кліенты мастачкі – вяскоўцы.

*Валянцін ГЕРНОВІЧ.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## Не купляйце інфекцыю

МІНСК. У сувязі з вельмі дрэнным становішчам па захворваемасці вострымі кішэчнымі інфекцыямі і, перш за ўсё, дызентэрыяй, галоўны дзяржаўны санітарны ўрач краіны сваёй пастановай забараніў:

1. Рэалізацыю на рынках, а таксама ў несанкцыянаваных месцах скорапсавальных малочных прадуктаў (малака, тварагу, смятаны) пры адсутнасці ўмоў ахаладжэння ў месцах непасрэднага іх продажу.

2. Гандаль на рынках ачышчанымі арэхамі (грэцкія, фундук), бахчавымі культурамі ў разрэзаным выглядзе.

Адказнасць за выкананне пастановы ўскладзеная на юрыдычных і фізічных асоб, якія здзяйсняюць рынкавы гандаль.

МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе і раёне за паўгоддзе таксама назіраецца рост інфекцыйнай захворваемасці і, перш за ўсё, кішэчнай групы (дызентэрыя, сальманелёз, гастраэнтэракаліты).

Эпіданамнез паказаў, што асноўнымі фактарамі перадачы кішэчных інфекцый з'явіліся малако і малочныя прадукты – 58%, садавіна і гародніна – 18%, мясныя прадукты – 16%.

Акрамя харчовага шляху перадачы, не выключаецца і водны фактар пры распаўсюджанні дызентэрыі, таму што ў 80,6% хворых на дызентэрыю высеяны ўзбуджальнік Флекснера, для якога характэрны водны шлях перадачы.

У гэтых абставінах сіламі толькі медыцынскіх работнікаў забяспечыць эпідэмічную надзейнасць практычна немагчыма, неабходны намаганні зацікаўленых службаў і ведамстваў, насельніцтва.

Колькі разоў указвалася на недапушчальнасць гандлю харчовымі прадуктамі ў неўстаноўленых месцах, пры адсутнасці ўмоў, проста з зямлі, у тым ліку, і малочнымі, аднак гэты гандаль працягваецца.

Зразумела, хто паважае сябе і, перш за ўсё, думае пра здароўе блізкіх, не будзе набываць прадукты харчавання ў месцах стыхійнага гандлю, які не толькі нясе небяспеку для здароўя, а і стварае нязручнасці людзям, псуе знешні выгляд горада, населеных пунктаў.

*Віктар БЕЛІК, галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Маладзечанскага раёна.*



*Кавуны з прычыны сваіх пустых кашалькоў мы сёлета найчасцей купляем «лустамі». Між тым, невядома, якім нажом адрэзалі ад кавуна, колькі лусты праляжалі так, колькі мух на іх паспела сесці...*

ФОТА ВАЛЯНЦІНА ГЕРНОВІЧА.

# Бясплатны тур для маладзечанцаў



Будынак маладзечанскага чыгуначнага вакзала.

ФОТА "РГ".

*МАЛАДЗЕЧНА. 1 жніўня, прыкладна а 10 гадзіне, усе жадаючыя бясплатна могуць праехаць да станцыі Залессе. У чатырох вагонах па–за графікам чыгуначнікі паедуць адзначаць сваё прафесійнае свята. Такім чынам, раз на год "зайцы" могуць не хваляваца за свае вушы.*

Пра чыгунку звычайна гавораць "дзяржава ў дзяржаве". І маюць рацыю. Напрыклад, Мінскаму аддзяленню чыгункі падпарадкоўваюцца каля 20 гарадскіх структурных прадпрыемстваў. Аператыўнае кіраўніцтва імі ўскладзенае на станцыю Маладзечна Беларускай чыгункі.

– Мы прымаем, фарміруем, адпраўляем грузавыя цягнікі, прымаем і выдаем грузы, абслугоўваем пасажыраў, – гаворыць начальнік станцыі **Андрэй Шрамук,** – нам належыць будынак вакзала, грузавы двор. На 310 штатных работнікаў нагрузка прыпадае велізарнейшая.

**– Аднак чыгуначнікі заўсёды і грошай атрымлівалі значна больш, чым урач ці настаўнік.**

– Сярэдняя зарплата за чэрвень у нас склала 20 міьёнаў рублёў. І штомесяц павялічваецца на 15–20 працэнтаў. Мы, як і раней, забяспечваем сваіх работнікаў спецадзеннем, палівам, бясплатнымі праязнымі білетамі.

**– Станцыя "Маладзечна" – адна з буйнейшых у рэспубліцы. Па аб'ёме работы з якой станцыяй можна параўнаць?**

– Мінску мы крыху саступаем. А працуем на ўзроўні станцыі Орша–Цэнтральная. Аб'ём сапраўды вялікі. За суткі адпраўляем 44 грузавыя цягнікі, 15 прыгарадных, 24 цягнікі фарміруем.

**– Вы толькі што зрабілі еўрарамонт будынка вакзала. Што ў бліжэйшых гаспадарчых планах?**

– На прывакзальнай плошчы замест асфальту пакладзем плітку, зробім новы дах на будынку прыгарадных кас.

**– З мытняй, пагранічнікамі, ветэрынарным кантролем ёсць узаемаразуменне?**

– Знаходзім. Праўда, неяк агульнымі намаганнямі трэба знаходзіць і магчымасць пacкараць пропуск вагонаў. Гэта праблема.

**– Вы фарміруеце грузавыя цягнікі. А былі выпадкі, што не той вагон да састава прычаплялі?**

– Вельмі рэдка, але і такое здараецца. Напрыклад, адзін з вагонаў памылкова заехаў у Літву. Ледзь яго вярнулі. Такія памылкі нам вельмі дорага каштуюць, і гэта стымулюе працаваць дакладна.

**– Карыстаецеся паслугамі паравозаў, калі фарміруеце саставы? Ці ветэраны не ў пашане?**

– Ветэраны заўсёды ў пашане. Нашыя паравозы, як і іншыя, стаяць на станцыі Негарэлае ў Брэсцкім напрамку. Іх заўсёды можна "падняць". Проста няма такой неабходнасці.

А што тычыцца ветэранаў–работнікаў чыгункі, мы іх шануем, імі ганарымся. Цяпер вось пенсіянерам на свята далі па 800 тысяч.

**– Вы можаце ўлічваць пажаданні гараджан і мяняць час адпраўкі прыгарадных цягнікоў, электрычак?**

– З Мінска нам даводзяць расклад руху, і наша задача – выканаць гэты расклад.

**– Нядаўна адзін з чыгуначнікаў выдаў – вас, пасажыраў, мы возім амаль што бясплатна. Кошт білета не пакрывае страты?**

– Білет на тую ж электрычку павінен быць даражэйшы разы ў чатыры. Зразумела, калі так падыходзіць да гэтага пытання.

**– Чыгунка – зладжаны механізм. Рух распісаны літаральна па хвілінах. Дзесьці збой – магчымыя чалавечыя ахвяры. За кошт чаго такая дакладнасць?**

– Вы самі адказалі на пытанне. Чыгунка – зладжаны механізм. Калі яе будуць драбіць і з'явяцца розныя гаспадары, лічы, пайшоў адлік часу знішчэння таго, што маем.

**Сустрэчу з начальнікам станцыі дапамог арганізаваць аддзел інфармацыі Маладзечанскага гарвыканкома.**

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

## Паважаныя пенсіянеры Маладзечна!

Запрашаем вас у гарадское аддзяленне сацдапамогі (вуліца Б. Хмяльніцкага, 36), дзе ў жніўні будуць праводзіцца наступныя мерапрыемствы:

11.08 Гутарка з урачом–кардыёлагам гарадской паліклінікі Э. Волкавай "Асаблівасці сардэчна–сасудзістай сістэмы ў пажылых людзей". Пачатак а 10.00

12.08 Дыетычнае харчаванне пры сардэчна–сасудзістых захвораннях. Урач цэнтра здароўя. Пачатак а 14.00

18.08 Зялёная аптэка ад "А" да "Я". Збор і прымяненне лекавых раслін пры разнастайных захворваннях. Пачатак а 14.00

25.08 За кубкам чаю. "Бабуліны сакрэты заваркі". Пачатак а 14.00

Калі вы захварэлі і няма каму купіць вам лекі або схадзіць ў магазін за прадуктамі, то вам дапаможа сацыяльны работнік службы неадкладнай дапамогі.

Тэл. у Маладзечне 65171 з 8.00 да 17.00

*ПАВЕДАМЛЯЕ БЕЛАПАН*

## Без імпартных будматэрыялаў

МІНСК. З 1 жніўня пры будаўніцтве аб'ектаў жыллёвага, сацыяльнага і культурнабытавога прызначэння, якія фінансуюцца за кошт сродкаў дзяржбюджэту, павінны прымяняцца толькі айчынныя канструкцыі, будаўнічыя і адзелачныя матэрыялы і сістэмы інжынернага абсталявання. Адпаведнае рашэнне прынята Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва краіны для зніжэння кошту аб'ектаў, а таксама ў мэтах аказання дзяржаўнай падтрымкі айчынным вытворцам будматэрыялаў.

Мінбудархітэктуры зацвердзіла таксама пералік канструкцыі, матэрыялаў і абсталявання, якія вызначаюць спажывецкія якасці вясковага і гарадскога жылля і вырабляюцца прадпрыемствамі рэспублікі.

*Аляксандр ПАПОВІЧ.*



*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 21.07 | 28.07 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 510 | **510** |
| Кілбаса с/в | 1 кг | – | – |
| Сасіскі «Мінскія» | 1 кг | 660 | – |
| Селядзец салёны | 1 кг | – | **340** |
| Рыс | 1 кг | 220 | **280** |
| Цукар | 1 кг | 148 | **147** |
| Грэчка | 1 кг | 290 | **300** |
| Алей | 1 л | 380 | **420** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 165 | **160** |
| Маянэз | 250 г | 70 | **70** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 470 | **470** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 140 | **140** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 140 | **140** |
| Лімоны | 1кг | 580 | **580** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | – | – |
| Масла | 1 кг | – | – |
| Тварог | 1 кг | – | – |
| Малако | 1,5 л | – | – |
| Бульба маладая | 1 кг | 120 | **80** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 200 | **200** |

кавун ............ 1кг ............ 100
морква ............ пучок ............ 80
агуркі ............ 1 кг ............ 40
памідоры ............ 1 кг ............ 180



*Лета: хто прагне квасу, а аўтамабілісты — бензіну.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА*

## Вуліца Міру далёка не мірная

*МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак пад коламі "Масквіча" загінула 8—гадовая дзяўчынка.*

Каля 15 гадзін па вуліцы Міру тры маленькія дзяўчынкі перабягалі шашу. Ля жылога дома №8 яны выбеглі ўперадзе аўтобуса, які стаяў на прыпынку. Прахожыя гаварылі, што беглі за мячыкам. Дзве паспелі праскочыць. А Каця, якая прыехала на адпачынак з Расіі, апынулася пад коламі.

*Аддзел інфармацыі.*



*Вуліца Міру ў Маладзечне мае адносна добрае пакрыццё, таму легкавікі звычайна імчаць на даволі вялікай хуткасці. Нават на пазначаным пешаходным пераходзе вадзіцелі прапускаюць людзей (сярод іх вельмі шмат школьнікаў!) далёка не заўсёды.*

ФОТА ВАЛЯНЦІНА ГЕРНОВІЧА.

*ГІСТОРЫЯ*

# Асцярожна з агнём

## да 85–й гадавіны пачатку першай сусветнай вайны (1914–1918 г. г.)

Маё дзяцінства праходзіла пад акампанемент расказаў пра Мікалаеўскую вайну. Так тады называлі першую сусветную мясарубку. Гэта ўжо пазней іх пранумаравалі і далі назвы: імперыялістычнай назвалі першую, а другую – Вялікай Айчыннай.

...Толькі пятнаццаць гадоў прашумела пасля заканчэння той вайны. Яе раны яшчэ не паспелі зарубцавацца і моцна кровачычылі. Таму ў доўгія калядныя вечары бабуля Прузына апавядала, якія беды яны, жыхары Гарыдавіч, што на Вілейшчыне, перажылі ў тым трагічным і недалёкім 1915 годзе:

– Немцы прарвалі фронт пад Свянцянамі. Рушылі ў бок Вілейкі. Мы – ходу ў Даўбарова, схаваліся там у лесе. Праз пару тыдняў іх выгналі да Смаргоні. Вярнуліся дадому – усё разрабавана да апошняй саломінкі! Усё! Застаўся здзічэлы кот на ўсю гаспадарку... Выжылі таму, што атрымлівалі дапамогу: адзенне, ежу, насенне. Далі нам каня, свінню, карову. З фонду яе імператарскай вялікасці Аляксандры Фёдараўны, дай ёй Божа здароўя...

Дзе ж ёй, бабулі, было ведаць, што імператарская сям'я ўся была знішчаная бальшавікамі яшчэ ў 1918 годзе.

З лета 1915 года да лютага 1918 наш край стаў прыфрантавым. Увесь лес побач з Гарыдавічамі ператварыўся ў вялізны ваенны горад, у якім размясціліся рэзервовыя часці царскай арміі. У ім – вуліцы, плошчы, а ўздоўж вуліц – добра замаскіраваныя зямлянкі, бліндажы, склады. 2 шматкіламетровыя абарончыя траншэі. І могільнікі, могільнікі са спарахнелымі ўжо драўлянымі крыжамі.

У бок фронту пракладваліся шматлікія дарогі з зігзагамі супрацьпаветраных паваротаў, бо ўжо шырока выкарыстоўвалася авіяцыя. Праз Вілію і Нарачанку ўзводзіліся масты і паромы. Праляглі палотны вузкакалейных чыгунак, якія месцамі захаваліся і да сёння.

У 1948 годзе першы мой паход на Мядзельшчыну з васьмікласнікамі Куранецкай школы – ізноў сустрэча з "аўтографамі" той вайны. Лясы – суцэльныя прорвы траншэяў. А ля возера Нарач – бетонныя бункеры кайзераўскіх ваякаў. Там жа нам паказалі і вялікі могільнік: на бетонных крыжах можна было прачытаць і прзвішчы немцаў. Расказвалі, што восенню 1941 года сюды наведваліся дзеці пахаваных тут нямецкіх жаўнераў. А далей – больш і больш. Незлічоныя зігзагі траншэй уздоўж дарогі Вілейка–Барысаў: тут у 1915 годзе царскія войскі гасілі пажар нямецкага прарыву. Уздоўж дарогі Смаргонь–Крэва пралягаў участак фронту, які разрываў наш рэгіён. Крэўскі замак – шэдэўр абарончага дойлідства часоў Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага... Каля двух з палова гадоў стаяў на лініі фронту, несучы такія вялікія страты.

Смаргоншчыне было наканавана лёсам увайсці ў сусветную гісторыю. У мястэчку Солы бальшавісцкая дэлегацыя восенню 1917 года вяла перамовы з нямецкімі генераламі, каб заключыць перамір'е. Гэта была першая прыступка ў лесвіцы да Брэста, дзе, на жаль, па віне бальшавікоў немцы атрымалі магчымасць зноў наступаць.

Тады, 25 сакавіка 1918 года, і была створаная Беларуская Народная Рэспубліка, першая спроба беларускіх патрыётаў адрадзіць незалежную дзяржаўнасць нашу, знішчаную ў канцы XVIII стагоддзя.

Але з лютага да лістапада 1918 года наша безабаронная на той час Беларусь стала закладніцай палітычнага гандлю. Зноў немцы рабавалі, расстрэльвалі, палілі, гвалцілі. Наша Радзіма ператварылася ў пакутніцу і дойную карову для галодных і хцівых кайзераўскіх ваякаў.

Заканчэнне 1–й сусветнай вайны ў лістападзе 1918 года не прынесла спакою ў наш край: бальшавікі з Польшчай, якая ўзнікла тады, сталі рваць Беларусь на часткі. Зноў! Нашы землі сталі арэнай кровапралітных баёў, а затым – і палітычнага гандлю. Амаль на два дзесяцігоддзі Беларусь аказалася разарваная па–жывым паміж Польшчай і савецкай Расіяй, а з 1922 года – з СССР.

Яшчэ першая Сусветная працягвала кульгаць на мыліцах і кульбах калек, нагадвала пра сябе сляпымі, бязрукімі... Ашпараныя пякучымі атрутнымі газамі, былыя яе ўдзельнікі дажывалі свае дні ў пякельных пакутах:

*Па бліндажах,*
*траншэях і варонках*
*З нас кожны*
*тую мясарубку спасцігаў...*
*Яшчэ гарэлі слёзы на сасонках –*
*Пажар другой сусветнай зашугаў.*

У яе мы ўступалі ўжо дзесяцігадовымі сведкамі і ўдзельнікамі тых крывавых гадоў. І як тут не нагадаць няпамятлівым палітыкам, што сусветны пажар той далёкай вайны пачаўся з выстралу ў Сараеве, з малюсенькай іскрынкі:

*Стрэл у Сараеве –*
*і рэха непазбежнасць!*
*Траншэй крывавых*
*кліча голас з забыцця:*
*Ад лютых бойняў уратуе*
*Незалежнасць –*
*Гарант свабоды*
*і дастойнага жыцця.*

Азіраючыся ў нашу гісторыю, прыходзіш да адназначнай высновы: калі забываеш мінулае, будучыня помсліва б'е за гэта пад дых. Пра што і сведчаць шматмільённыя ахвяры сусветных войнаў.

*Аляксандр НАРКЕВІЧ,*

*Вілейка.*



ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА

# АльтанкА

№ 1

САЛДАЦКАЯ КУРЫЛКА

## Хутка ў боты

Да выхаду нумара, напэўна, я ўжо буду ў «ботах», і маё стаўленне да арміі можа змяніцца. Але я прадоўжу рубрыку і вы зможаце рэальна ўбачыць, як армія змяняе (альбо НЕ змяняе) чалавека і ў які бок.

Надыходзіць той час, калі шмат маладых хлопцаў пойдзе у войска, яны будуць "стоять на страже отечества" і абараняць нас ад "злобных янки".

Тое, што гэта "грамадзянскі абавязак кожнага", не трэба казаць. Словы накшталт гэтых ужо даўно страцілі той сэнс, які надаваўся ім раней. Ці, напрыклад, чым меней часу застаецца, мне ўсё часцей кажуць (у асноўным, людзі на парадак старэйшыя за мяне):

– Як, ты не жадаеш ісці ў войска?

– Як жа так, там з цябе зробяць чалавека.

Хто зробіць чалавека ці, можа, што? Ежа? Пасля якой хутка з'явіцца гастрыт ці язва. А можа, тыя славутыя афіцэры, якія нічога не ўмеюць рабіць, акрамя як толькі здзеквацца з людзей? І ўвогуле, якога чалавека? Цяпер я што, жывёла якая–небудзь?

Карацей, я не разумею, навошта гэтыя ўзброеныя сілы патрэбныя.

Калі дзеля таго, каб абараняць нас ад NATO, дык не, тут прабачце. Я не жадаю быць гарматным мясам. Вунь Расія развязала вайну ў Чачні. Што з гэтага атрымалася, мы ведаем. Маладых, непадрыхтаваных хлопцаў загінула столькі, што лічбы (пра якія мы, напэўна, даведаемся толькі праз доўгі час) будуць кідаць нас у жах. Нехта за гэта адказаў? Нехта сеў за краты? Не.

ДЫК ВОСЬ МОЙ АДКАЗ: НЕ – ТАКІМ УЗБРОЕНЫМ СІЛАМ, НЕ – ТАКОЙ ТЭРМІНОВАЙ СЛУЖБЕ!

Шмат краін, дзе службу нясуць кантрактнікі. Ёсць краіны, дзе ўвогуле не існуе арміі!

**Самуль ЮШКЕВІЧ.**

Магчыма, нехта не зможа пагадзіцца з меркаваннямі Самуля пра войска. Мы радыя будзем апублікаваць розныя думкі.

**Рэдакцыя**

Прывітанне, шаноўныя чытачы! Рэдакцыя "РГ" вырашыла аднавіць выпуск укладыша для моладзі. Толькі цяпер у нас будзе новы імідж – мы плануем стварыць сапраўдную маладзёжную рэдакцыю, якая б задаволіла патрэбы людзей з рознымі густамі. «Альтанка» – гэта месца, дзе будуць збірацца маладыя людзі, каб абмяркоўваць свае праблемы, расказваць пра радасці і перажыванні. Калі вы ўмееце трымаць у руках ручку і жадаеце праверыць годнасць шэрых клетак свайго мозгу, то хутчэй бяжыце да тэлефона і набірайце нумары ў Маладзечне: 69667, 53841. Ваш узрост – любы. Памятайце: нам патрэбныя карэспандэнты з усіх куткоў рэгіёна!

**Альтанцы.**

### Сёння у "Альтанцы" з вамі сустракаюцца:

*Юлія Ванслаў.*
Перайшла ў 11 клас СШ № 9; не ўяўляе жыцця без футбола і журналістыкі.
**Рэдактар «Альтанкі».**



*Юрый Івашынка.*
Працуе на адным з маладзечанскіх заводаў. Таварыскі хлопец з дрэнным характарам, жыве, згодна з выразам: «дзе ж вы, дзяўчынкі?»



*Самуль Юшкевіч.*
19–гадовы юнак; намеснік старшыні «Маладога Фронту» з Маладзечна; захапляецца беларускай культурай (музыкай і літаратурай).
**Спрабуе свае сілы ў журналістыцы.**



*Валянцін Герновіч.*
Мастак–афарміцель. Захапляецца ўсім, што звязана з камп"ютэрам. Прыхільнік беларускага піва ў сяброўскай кампаніі.
**Камп"ютэрная вёрстка.**

На гэтым месцы можа быць ТВАЁ ФОТА.
Мы чакаем вас !

ФОТА 3Х4

ТЭСТ




## Ці знаходзіцеся вы ў стане стрэсу цяпер?

*Адкажыце на пытанні тэсту, ацэньваючы кожны адказ наступным чынам.*

***4 балы – заўсёды, 3 балы – часта, 2 балы – часам, 1 – рэдка, 0 – ніколі.***

1. На мяне раптам находзіць пачуццё страху і я пачынаю панікаваць.
2. Я нервуюся, я лёгка ранімы, крыўдлівы.
3. Калі кладуся спаць, доўга не магу заснуць, або прачынаюся ўначы, падымаюся раніцой разбіты.
4. Я хвалююся, што можа здарыцца нешта жахлівае.
5. Я раздражняюся з–за кожнай дробязі, у мяне дрэнны настрой, я адчуваю слабасць.
6. Я нерэгулярна харчуюся, ем занадта многа або занадта мала.
7. Шмат куру ці п'ю або прымаю лекі.
8. Пакутую на расстройства страўніка.
9. Мне цяжка сканцэнтравацца і прыняць рашэнне, мяне падводзіць памяць.
10. Адчуваю сябе стомленым.
11. Боюся захварэць ці згубіць над сабой кантроль.
12. Я адчуваю апатыю: мне ўсё абыякава.
13. Мне не хапае паветра, калі я адпачываю.
14. Я адчуваю боль у шыі, скаванасць у целе, цяжар у галаве.
15. Я стараюся пазбягаць сітуацый, здольных мяне ўстрывожыць.
16. Мяне пераследуюць дрэнныя думкі.
17. Я не магу думаць пра каханне.
18. У мяне пачашчанае сэрцабіцце і спазмы ў жываце.
19. Мне не хапае ўпэўненасці ў сабе.
20. Я баюся, што не змагу з чым–небудзь справіцца.
21. Я пакутую на галаўны боль.
22. Я не хачу жыць.
23. З песімізмам гляджу ў заўтрашні дзень.
24. Мяне заўсёды штосьці трымае ў напружанасці.
25. Я памешаны на чысціні, ежы або здароўі.
26. У мяне штосьці баліць, і гэта трывожыць мяне.
27. Я ўражлівы, і мяне лёгка давесці да слёз.
28. Я адчуваю фізічную знясіленасць.
29. У мяне кружыцца галава.
30. Мне не хочацца сустракацца з сябрамі.

***Падлічыце балы:***

***Больш за 40** – вы знаходзіцеся ў стане моцнага стрэсу, тэрмінова змяніце жыццё.*

***Ад 20 да 40** – сярэдні стрэс, знайдзіце крыніцы і паспрабуйце іх ухіліць.*

***Менш за 20** – слабы стрэс, у вас няма яўных сімптомаў стрэсавага стану. Віншуем: паспрабуйце жыць так і далей. Вы добра перамагаеце цяжкасці жыцця.*

**Вольга ФЕДАРОВІЧ.**

АНЕКДОТ

Прадказальніца кажа маладой жанчыне:

– Хутка вы пазнаёміцеся з прыгожым брунетам і будзеце з ім жыць шчасліва.

– Ды вы не маглі б мне сказаць, як да гэтага будзе ставіцца мой муж?

¤ ¤ ¤

Едзе мужчына на машыне. Насустрач яму з–за павароту жанчына – таксама на аўто. Параўняўшыся, яна апускае шкло і крычыць:

– Казёл!

Мужчына не пакідае гэта без адказу:

– Сама не лепшая!

Потым заязджае за паварот і пасярод дарогі ўразаецца ў казла.

¤ ¤ ¤

– На мінулым тыдні пясчынка трапіла ў вока маёй жонцы, таму яна павінна была ісці да ўрача. Гэта каштавала мне дваццаць долараў.

– Дробязь! Маёй жонцы днямі трапіла на вочы футравае паліто, і гэта каштавала мне тры тысячы..

¤ ¤ ¤



Неяк у лесе дазволілі вялікае паляванне на мядзведзяў. І тым нічога не заставалася, як бегчы праз мяжу. Сярод іх убачылі зайца, пытаюцца:

– А ты, заяц, чаму бяжыш?

– Як чаму? Страляюць жа ўсіх мядзведзяў.

– Дык ты ж не мядзведзь.

– А вы паспрабуйце ім гэта даказаць.

**Таццяна КУЗЬМІЧОВА.**

МАЛАДЗЁЖНЫ КЛУБ

***Паважаныя сябры! Вы з'яўляецеся сведкамі нараджэння новай рубрыкі. Мы стварылі яе дзеля таго, каб дапамагчы моладзі знайсці сваё месца ў гэтым жыцці. Тут мы будзем змяшчаць і забаўляльную інфармацыю, і сур'ёзную, таму што менавіта ў гэтым узросце ў нас з'яўляюцца першыя праблемы, прыходзіць першае каханне, ды, наогул, кожны становіцца на свой жыццёвы шлях.***

***Дасылайце нам свае лісты, і мы, па магчымасці, дапаможам вам.***

Для вас будуць разнастайныя конкурсы.

**1. Міс рэгіёна**

Паважаныя прыгажунькі! Кожны месяц мы будзем вызначаць "міс месяца". Адпраўляйце свае фота на адрас "РГ" (з адзнакай "Маладзёжны клуб" ("МК"), "міс рэгіёна"). Калі вы жадаеце атрымаць здымак назад, укладзіце канверт з адваротным адрасам. Дадайце, калі ласка, да здымка свае дадзеныя (імя, прозвішча, узрост, адрас, тэлефон) і невялічкі аповяд пра сябе.

**2. У жыцці ёсць месца казцы...**

Дасылайце свае казкі, у якіх расказваецца пра з'яўленне на Зямлі той ці іншай рэчы. Як ўсё было? Для размінкі мы змяшчаем забаўляльную гісторыю пра стварэнне свету.

***Новая версія пра стварэнне свету***

Было гэта не так даўно, але і нельга сказаць, што цяпер: тады большасць з вас яшчэ блытала "Снікерсы" з "Памперсамі" і шчыра думала, што "Марс" – гэта планета, а не шакаладка, і не ўсе ведалі, што хлеб і "Rama» створаныя адзін для аднаго, а "Мілкі Уэй" не тоне ў малацэ.

Дык вось, у маладзечанскім Доме культуры чыгуначнікаў абсалютна выпадкова пазнаёміліся Адам – хлопец, які скончыў школу і пацiху ўжо прымерваў армейскія боты, – і Ева – дзяўчына, якая вучылася ў тэхнікуме і марыла пра сапраўднае каханне. Маладыя людзі спадабаліся адзін аднаму. Але Ева кахала хлопца, Іуду, які, як гэта часта ў жыцці бывае, не з'яўляўся ўвасабленнем чалавечай дабрадзейнасці. І якраз ён і пабачыў Адама і Еву разам. Зразумела, ён запрасіў Адама на "размову".

Праз гадзіну пасля іх "размовы" дзяжурны нарад міліцыі даставіў Адама ў гарадскую бальніцу з дыягназам: пераломы рэбраў. Ева вельмі хвалявалася за Адама і не паверыла Іудзе, які сказаў, што той пайшоў дадому і ўсё зразумеў.

Яна пачала шукаць Адама і знайшла яго ў бальніцы. Дзяўчына была там увесь вольны час, і хутка маладыя людзі зразумелі, што не могуць жыць адзін без аднаго. Настаў час, хлопец вылечыўся і пайшоў у армію. Суджаная яго чакала і змагла дачакацца, як гэтаму ні стараўся зашкодзіць Іуда. Яны пажаніліся, і вось нядаўна ў іх нарадзіўся сын, якога назвалі Аўраамам. А потым і ў яго народзіцца сын Ісаак і гэтак далей, як у Біблії: "І будзе панаваць на зямлі шчасце і цепльня"...

Чакаем новых казак ад вас. Лепшую мы змесцім у наступным нумары "Альтанкі".

**Матэрыялы рубрыкі падрыхтаваў Юрый ІВАШЫНКА.**

УРАЖАННІ

## Вясна прачынаецца пасля спектакля

У канцы навучальнага года вучняў 7 і 8 "В" класаў СШ № 9 запрасілі ў гімназію на спектакль "Гасцініца для падарожнікаў у цудоўнае" узорнага тэатра–студыі "ТЭСТ" (кіраўнік Таццяна Бабей). Вось уражанні гледачоў.

**Юлія Карвецкая:**

– Лепшымі героямі, на мой погляд, былі Парася, Кот і Леў Бандзіта. Калі б нам прыйшлося рыхтаваць такі спектакль, я не здолела б вывучыць так добра сваю ролю, як гэта зрабілі вучні СШ № 10.

**Наталля Лужынская:**

– Калі я ўвайшла ў залу для гледачоў, у мяне адразу з'явілася пачуццё ўтульнасці. Мяне ўразілі ўпэўненыя дзеянні акцёраў. Нягледзячы на тое, што на сцэне былі мае равеснікі, яны разумелі ўсю адказнасць падзеі.

**Вольга Каўрыга:**

– Я нават і не ведала, што ў нашым горадзе ёсць такі цудоўны калектыў. Пасля спектакля ў маёй душы прачнулася вясна.

**Вікторыя Шапавал:**

– Цудоўная музыка, танцы, казачныя дэкарацыі... У час прагляду ў мяне з'явілася пачуццё гонару за дзяцей–акцёраў. Яны так прыгожа гаварылі, падтрымлівалі адзін аднаго!

**Юлія ВАНСЛАЎ.**

СПОРТ

## Бразільцы і маладзечанцы - перспектыва?

***У гэтай рубрыцы я буду знаёміць вас з маладымі спартсменамі рэгіёна. Першы наш госць – 17-гадовы футбаліст маладзечанскай ДЮСШ Андрэй Байлукоў.***

**– Раскажы крыху пра сваю сям"ю.**

– Маці завуць Надзеяй, бацьку - Фёдарам. Ёсць старэйшы брат Яўген.

**– Як ты прыйшоў у футбол?**

– Аляксандр Гармаза праводзіў набор у футбольную секцыю вучняў малодшых класаў школ горада. Я, тады другакласнік, спадабаўся яму. Дарэчы, Аляксандр Пятровіч - мой першы трэнер. Потым яго змяніў Андрэй Найдзіч, які трэніруе мяне і цяпер.

**– Якія ў цябе ёсць перамогі на цяперашні час?**

– Першыя месцы ў Мінскай вобласці.

**– Твой кумір?**

– (пасля працяглага роздуму) Алясандра Дэль П"ера.

**– Табе хацелася б гуляць за ФК «Маладзечна»?**

– Натуральна!

**– Якой ты бачыш будучыню маладзечанскага футбола?**

– Хутка пакажуць сябе перспектыўныя выхаванцы Віктара Дзмітрачкова (хлопцы 1984 года нараджэння - аўтар), таму наш футбол паступова будзе прагрэсіраваць.

**– Які рэгіён свету ты лічыш самым перспектыўным у футбольным аспекце?**

– На мой погляд, Бразілія.

У тыя дні Андрэй здаваў школьныя выпускныя экзамены. Пажадаем яму атрымаць у жыцці добрыя адзнакі, а потым самааддана і сумленна служыць маладзечанскаму футболу.

**Юлія ВАНСЛАЎ**

*У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ*

# Крыжаванка

## ад Аляксандра Касцюковіча з в. Крывое Сяло Вілейскага р–на



**Па гарызанталях:** 1. Рэчыва, якое характарызуецца своеасаблівым бляскам, коўкасцю, электраправоднасцю. 4. Раздзел мовазнаўства, які вывучае ўстойлівыя моўныя звароты. 6. Прыём, сістэма прыёмаў у якой–небудзь дзейнасці. 8. Адтуліна, якая вядзе з рота ў глотку. 9. Ліст паперы з часткова падрукаваным тэкстам і пропускамі для дапісвання патрэбных звестак. 11. Пляцоўка ў садах, скверах, парках. 14. Жорсткі чалавек, мучыцель. 16. Цікавы, захапляючы нумар цыркавой або эстраднай праграмы. 18. Вогненны след, які пакідае за сабой трасіруючая куля або снарад. 19. Дарадчык. 20. Умоўны знак, якім абазначаюць музычны гук. 21. Пласкадоннае грузавое судна. 23. Раўнамернае чаргаванне якіх–небудзь элементаў. 26. Ліст паперы. 27. Пакрывала для стала. 29. Выдатны дзеяч мастацтва, навукі, выдатны пісьменнік. 30. Рэжучая частка халоднай зброі. 31. Ізаляваная камера спецыяльнага прызначэння на караблі, самалёце. 33. Аўтамат, які выконвае складаныя дзеянні, падобныя да дзеянняў чалавека. 34. Багата аздобленае крэсла на спецыяльным узвышэнні. 35. Якое–небудзь заданне, работа для ваеннаслужачага. 36. Зімой і летам адным колерам. 37. У паэтычнай мове: мара, летуценне. 39. Жорсткі прыгнёт, эксплуатацыя. 41. Унутраны аб'ём. 42. Яравое жыта ці пшаніца. 44. Мужчынскае імя. 46. Лішні клопат, непрыемны абавязак. 47. Урачысты верш, прысвечаны якой–небудзь значнай падзеі або асобе. 48. Шпіён, дыверсант. 51. Змякчэнне штуршкоў аўтамабіля пры яздзе. 52. Грошы, якія выдаюцца папярэдне ў лік заработнай платы.

**Па вертыкалях:** 1. У грэчаскай міфалогіі: адна з дзевяці багінь, заступніц навук і мастацтваў. 2. Здабыча, захопленая ў пераможанага ворага. 3. Дзяржава. 4. Элементарная часцінка светлавой энергіі, квант святла. 5. Даўнейшая назва рубіну і сапфіру. 6. Масляністыя астаткі ад перагонкі нафты. 7. Пэўны рэжым харчавання. 9. Дробненькія рознакаляровыя пацеркі для вышывання, упрыгожвання. 10. Чарцёж зямной паверхні або зорнага неба. 11. Агульная назва харчовых прадуктаў высакаякаснага прыгатавання. 12. Жаночы ці мужчынскі скураны абутак (у адз. ліку). 13. Завіруха. 15. Палітыка распальвання нацыянальнай варожасці. 16. Прыродныя ўмовы, у якіх працякае жыццядзейнасць якога–небудзь арганізма. 17. Колькасць чаго–небудзь у пэўны час. 20. Рад бярвенняў, пакладзены зверху для прыкрыцця. 21. Ударны музычны інструмент. 22. Паслядоўнае наведванне пэўных людзей або пэўных мясцін. 24. Першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае вельмі малыя прадметы. 25. Антонім слову вайна. 28. Жаночае імя. 32. Ручка ў касе. 33. Сістэма прыбораў для вызначэння месцазнаходжання розных аб'ектаў. 37. Ільдзіна. 38. Назва апошняй літары ў грэчаскім алфавіце. 39. Суцяшэнне. 40. Мера вагі каштоўных камянёў. 43. Кусок старой тканіны. 44. Жаночае імя. 45. Халодная будыніна для кармоў і гаспадарчых прылад. 49. Струнны музычны інструмент. 50. Установа, дзе рэгіструецца шлюб.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 30.*

**Па гарызанталях:** 7. Балаган. 8. Пакунак. 9. Падатак. 11. Чарапок. 12. Хабар. 13. Рыцар. 15. Марка. 16. Рубін. 17. Дар. 20. Раб. 21. Пярун. 24. Табар. 26. Запал. 27. Водар. 29. Рахунак. 30. Жывапіс. 31. Выпадак. 32. Радыкал.

**Па вертыкалях:** 1. Вакацыі. 2. Рататар. 3. Манах. 4. Радар. 5. Куратар. 6. Рашотка. 10. Камін. 11. Чад. 14. Рупар. 15. Матуз. 18. Сянаж. 19. Фаварыт. 20. Рабунак. 22. Натацыя. 23. Рафінад. 25. Бок. 27. Васал. 28. Рымар.

*НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ*

## Доўг трэба аддаваць!

Пазычыў сусед у суседа 200 рублёй (на старыя грошы) і адмаўляецца аддаваць. Каб у суд – дык ні распіскі, ні сведак.

Падумаўшы, чалавек пасылае даўжніку пісьмо, а там: "Дарагі сябра, пазычыў я табе 500 рублёў, калі ёсць магчымасць – вярні. Маю вялікую патрэбу".

Сусед адказаў: "Які я табе сябра, калі ў цябе пазычыў усяго 200 рублёў, а ты хочаш спагнаць 500". Стаяў подпіс, дата.

Гэтага хапіла, каб прыгразіць несумленнаму, што будзе мець справу з суддзёй. Давялося тэрмінова аддаць доўг. Але і запатрабаваць распіску.

## Прыклад, варты пераймання

Было гэта даўнавата. Заходжу ў кабінет да загадчыка аддзела культуры. Бачу заклапочанасць на твары кіраўніка ўстановы. Чую:

– Плануем перавесці зананальную нараду работнікаў культуры ў Свіры. Трэба пра гэта абзваніцьклубы, бібліятэкі, скласці план мерапрыемства.

– А вы, Уладзімір Іосіфавіч, – даю параду, – семінар правядзіце не па трафарэце, а так, каб ён даў пэўную карысць. Вось слухайце...

У прызначаны дзень у Свірскім ДК сабраліся культработнікі з навакольных вёсак. Ва ўсіх прыўзняты настрой. Разлічвалі, што выступіць загадчык аддзела культуры, той–сёй з культработнікаў, азнаёмяць са сцэнарыем якога–небудзь мерапрыемства і інш.

Дзяўчаткі, жанчынкі і хлопцы–малойцы, – зычна кажа Уладзімір Іосіфавіч, у аўтобус, едзем.

Калі рушылі з месца, загадчык аддзела культуры заспяваў, песню дружна падхапілі. Хтосьці спытаў:

– Куды ж мы едзем?

– Як куды? Ад бібліятэкі да бібліятэкі, ад клуба да клуба.

Бадзёры настрой змяніўся сумам. Спрабаваў У. І. заспяваць, толькі мала хто падтрымаў.

На тое была прычына. Шмат хто жадаў, каб абмінулі яго ўстанову культуры.

Падчас такога нечаканага рэйду–семінара высветлілася, што ў адным месцы на клумбе пустазелле, у другім – даўно мытыя вокны, у трэцім – ніякага парадку на кніжных паліцах, у фармулярах чытачоў. Хібы, хібы ў рабоце. Часам і нязначныя, але непажаданыя.

А тут яшчэ кіраўнік аддела культуры прапануе:

– Рабіце фотаздымкі. Аформім вітрыну "Так нельга працаваць".

Дзве культработніцы заплакалі:

– Абмініце нас. Нам будзе сорамна.

Абмінулі гэтыя бібліятэкі. Былі падведзеныя вынікі. Чырванелі ад сораму некаторыя дзячаты, маладзіцы, кляліся, што больш не дапусцяць беспарадку, антысанітарыі і г. д.

Кіраўнікі, не паведамляйце наперад, дзе адбудзецца семінар і па якім пытанні.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

*ІМЯ НА ЭСТРАДЗЕ*

## Я ведаю, што такое любіць

***Пачатак інтэрв"ю з расійскім спеваком Мікалаем Трубачом – у папярэднім нумары.***

– **Усе твае песні пра каханне. А ў паўсядзённым жыцці ты часта гэта гаворыш?**

– Мне здаецца, што толькі каханнем я і жыву. Ёсць выдатны чалавек, якога я абажаю ўжо пяць гадоў. Гэта мая Муза, якая на шчасце сустрэлася мне на шляху. Я не магу без яе ні дня, пастаянна помню пра яе. І ў гэтым красавіку яна падарыла мне дачушку. Я шчаслівы, што ўсё так адбываецца, і спадзяюся, што ў нас будзе моцная сям'я.

– **Калі не сакрэт, як ты заляцаўся да яе?**

– Спачатку быў тэлефонны раман. Яна дзі–джэй на радыё і брала першае ў маім жыцці інтрв'ю. Я, безумоўна, у яе адразу закахаўся. Потым амаль цэлы год званіў і гаварыў ёй аб гэтым. Яна мне не верыла і гаварыла, што такімі рэчамі не жартуюць. Усё ж такі мне ўдалося яе упэўніць у сваім каханні, і думаю, я змог зрабіць яе шчаслівай. Так, я даведаўся пра рэцэпт сапраўднага шчасця – трэба зрабіць шчаслівым яшчэ некага. Я ведаю, што такое любіць.

– **А шалёныя ўчынкі з–за кахання здзяйсняў?**

– Лічыце самі. Аднойчы я прыляцеў на адзін дзень да яе з Уладзівастока толькі для таго, каб убачыць яе, а затым зноў паляцеў.

– **Так. Але ў чым жа усё ж крыецца твая папулярнасць?**

– Па–першае, у мяне з'явілася добрая апаратура – я змог купіць новую трубу знакамітай амерыканскай фірмы, пра якую раней толькі марыў. Ды і потым... Я цяпер маю магчымасць дапамагаць матэрыяльна сваім сябрам, а гэта... Заўсёды таму, хто дае – даецца.

– **Як ты адольваеш дрэнны настрой?**

– Калі–нікалі еду да сяброў. Ці іду гуляць у футбол. Ці ўключаю тэлевізар. Ці вельмі люблю глядзець свой любімы фільм "Масква слязам не верыць" – мільён раз бачыў, напамяць яго ведаю, але ўсё роўна падабаецца.

– **Ці падтрымліваеш адносіны са сваімі землякамі, былымі жыхарамі горада Нікалаева – Ігарам Крутым, Аляксандрам Сяровым, Валерыем Меладзе?**

– Так, мы маем зносіны даволі часта і ў нас нават штосьці накшталт Нікалаеўскага зямляцтва існуе.

– **Украінцы не крыўдзяцца за такую вашу "здраду"?**

– Так, ёсць некаторыя, якія мне гавораць: прадаў радзіму за пяць хвілін. Але "пяць хвілін" – гэта ўся песня, а радзіма ўсё роўна – Украіна.

*Падрыхтаваў Мікалай ВАСІЛЕЎСКІ.*

*САДАВОДУ–АГАРОДНІКУ*

## Вузельчыкі на памяць

● У канцы ліпеня–пачатку жніўня пачынайце ўбіраць часнок. У сухое сонечнае надвор'е цыбуліны акуратна выкапайце, абтрасіце зямлю і пакіньце на градзе падсохнуць. Затым абрэжце карані, лісты (пакідаючы пянёк 2–3 см) і на працягу 3–5 дзён прасушыце пры тэмпертуры 25–30. Пасля гэтага ўбярыце на захоўванне.

*А на малюнку – дачнае жыццё вачыма нашых калег з газеты «Брестский курьер».*




*РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ ЗАХВОРВАННІ І СПЕЦЫФІЧНЫЯ СПОСАБЫ ІХ ЛЯЧЭННЯ*

## Артрыт

Запаленне суставаў можа пачацца з многіх прычын. Галоўныя з іх – эмацыянальнае напружанне або смуткаванне, парушэнне хімічнага складу крыві ці няправільнае харчаванне. Таксама лічыцца, што артрыт можа быць выкліканы аутаімунітэтам.

Пастаяннае нервовае напружанне, непакой і смуткаванне выклікаюць змяненні ва ўзаемадзеянні гіпофіза і наднырачнікаў, пры гэтым парушаецца збалансаванасць розных хімічных выдзяленняў (гармонаў), што ўтвараюцца гэтымі залозамі.

Каб лячыць хваробу, неабходна знішчыць яе прычыну. Гэта не вельмі цяжка, калі прычына ў парушаным хімічным складзе крыві ці няправільным харчаванні, але не так лёгка, калі галоўная прычына – у непакоі і эмацыянальным напружанні.

Парушэнне хімічнага складу крыві можа быць выклікана недахопам кіслот (салянай і аскарбінавай) у страўнікавым соку. А гэта абазначае, што нават калі вы з ежай спажываеце дастаткова кальцыю, ён не зможа належным чынам засвоіцца з–за адсутнасці гэтых стрававальных кіслот і пачне назапашвацца ў суставах. Такім чынам, кальцый памылкова лічыцца прычынай артрыту, калі на самой справе прычына – у яго адсутнасці ў крыві. Адсутнасць кальцыю таксама абазначае, што вітамін С пазбаўлены яго дапамогі ва ўтварэнні добрага трывалага храстка вакол сустава.

*Працяг будзе.*

*ГАРАСКОП 2 – 8 ЖНІЎНЯ*

**АВЕН (21.03–20.04)**
Не ўпадайце ў эйфарыю ад прызначэння на важную пасаду. Той, хто вам дапамагае, мае свой разлік. Лепш адмовіцца ад такой падтрымкі, якая абяцае ў будучым непрыемнасці.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Атрымаеце нядрэнныя дывідэнды ад раней пачатага дзелавога праекта. На гэтым тыдні вам варта перадыхнуць ад спраў і адправіцца на курорт.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Уважліва вывучыце ўсе дэталі будучай дзелавой аперацыі і толькі пасля гэтага пачынайце дзейнічаць. У канцы тыдня набудзеце вялікую ўпэўненасць у сабе, з якой можаце брацца за новыя справы.

**РАК (22.06–23.07)**
З'явіцца мноства новых ідэй і задум, рэалізацыя якіх абяцае выдатныя вынікі. Любыя фінансавыя аперацыі прынясуць вялікую выгаду.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Астролаг раіць пачакаць з любымі гандлёвымі аперацыямі, а тым больш з тымі, якія з'яўляюцца рызыкоўнымі і не гарантуюць добрага выніку. Сканцэнтруйцеся лепш на вырашэнні асабістых праблем.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Тайныя нядобразычліўцы перашкаджаюць вашаму бізнесу. Не дайце ажыццявіцца іх задумам, але дзейнічайце з розумам і асцярожнасцю. На асабістым фронце чакаюцца рамантычныя прыгоды.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Павелічэнне даходаў абяцаюць новыя метады ў рабоце, хоць не ўсе вашы калегі цяпер ухваляць новаўвядзенні. Фінансавы дабрабыт будзе працягвацца і надалей.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Завершыцца важны праект, які адкрые доступ да грошай і вядомасці ў дзелавых колах.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Атрымаеце для адкрыцця ўласнай справы. Вазьміце ў партнёры добрага прафесіянала. Вас чакае поспех і ў прадстаўнікоў процілеглага полу.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
На гэтым тыдні не дасягнеце запаветнай мэты, але наблізіцеся да яе.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Апынецеся ў гушчары разнастайных спраў, не звязаных напрамую з бізнесам і работай. Памятайце, што бездакорная рэпутацыя можа аказацца "падмочанай" за долю секунды ў выніку прыкрай памылкі.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Пачняце тыдзень з паспяховых фінансавых аперацый. Для пачатку паспяховай кар'еры цяпер самы час. Таму дзейнічайце і перамагайце.

*У СВЕЦЕ ЦІКАВАГА*

## Пасоліш – і ён спаліць тваю хату

Згодна з даўнейшым павер'ем, быў у кожнага багатага селяніна на Беларусі свой змей–грашаносец.

Па апавяданнях, гэтыя змеі выводзяцца штучна. Для гэтага трэба ўсяго патроху: каб чорны певень пражыў сем год, затым ён знясе да канца 7 года асаблівага выгляду яйка, падобнае па форме да ракавіны малюска. Гэтае яйка трэба насіць пад пахай тры гады. Тады з яго вылупіцца маленькае змяяня. Яго трэба песціць, трымаць у цяпле, карміць яечняй (гэта выключна ягоная ежа) і нічым не турбаваць. Калі яно вырасце, то пачне лятаць, адшукваць скарбы і насіць грошы свайму гаспадару.

Жыве змей у топцы печкі, нікому не паказваецца. Туды яму гаспадар ці гаспадыня штодня носяць свежую яечню. Але яе чамусьці нельга саліць: нічым так не раззлаваць змея, як пасаліўшы гэту яечню. За гэта ён спальвае ўсё гаспадарскае дабро і адлятае. Помста яго такая да вінаватага – пажар. Хаця не толькі на рэчы можа быць скіраваны гнеў, але і на чалавека. Калі хто ўбачыць змея, які нясе грошы і абразіць яго, то грошы той рассыпле, а свайго гаспадара, як тыя рэчы, спаліць.

Адныя бачаць яго падобным да вужа, толькі значна большым, ён увесь залаты, гарыць як жар і мае крылы. Іншыя атаясамліваюць грашаносца з чалавекам, які ўмее лятаць. Так адлюстравалася ў народзе зліццё двух фетышаў: агню і вужа, які мае "вогненны характар".

*Падрыхтаваў Мікалай ВАСІЛЕЎСКІ.*

